


# Рэгіянальная газета

20 снежня 2013 года
№ 51 (973)




http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




# З Калядамі!

Усіх чытачоў, якія адзначаюць Каляды 25 снежня, калектыў "Рэгіянальнай газеты" шчыра віншуе са святам! Жадаем моцнага здароўя, дабрабыту і сямейнага цяпла!

**навіны рэгёна**

## На выставе пакажуць навагоднія паштоўкі і дызайнерскія цацкі

**ВІЛЕЙКА.** У выставачнай зале імя Сілівановіча краязнаўчага музея 20 снежня пачынаецца выстава "Навагодняя паштоўка". На ёй прадставяць калекцыю паштовак з фондаў музея: тыя, якімі віншавалі ў 50-90 гады мінулага стагоддзя. А таксама пакажуць паштоўкі, якія прынясуць на адкрыццё выставы жыхары горада. Таксама можна будзе пабачыць працы з ўстаноў адукацыі: дызайнерскія ёлачныя цацкі і ёлкі, вырабы на калядную тэматыку. Адкрыццё выставы адбудзецца ў 16 гадзін, паведаміла навуковы супрацоўнік музея **Надзея Аўдзей**.

## Затрымалі 13 тон кантрабандных далікатэсаў

**АШМЯНЫ.** 7 снежня на мытным пасту "Катлоўка" спынілі грузавы аўтамабіль "ДАФ". У ім знайшлі французскія сыр і масла, якія везлі з Польшчы ў Расію. Прадуктаў было больш, чым заяўлена ў дакументах: аказалася больш за адну тону "лішняга" сыру і каля дзесяці тон масла. Папярэдне тавар ацэньваюць на суму каля 700 мільёнаў рублёў. Паводле прэс-службы ашмянскай мытні, 12 снежня затрымалі кантрабандныя дзве тоны мясных рулетаў коштам каля 160 мільёнаў рублёў.

## Злёт маладых спецыялістаў

**МЯДЗЕЛ.** У райцэнтры 11 снежня адбыўся традыцыйны злёт маладых спецыялістаў. У гарадскім Доме культуры яны сустрэліся з прадстаўнікамі кіраўніцтва раёна і раённых службаў. Хлопцаў і дзяўчат запрасілі на экскурсіі ў музей вылічальнай тэхнікі гімназіі-інтэрната і музей народнай славы. У апошняй установе для іх нават падрыхтавалі тэатралізаваную экскурсію, падчас якой супрацоўнікі ў адмысловых строях пазнаёмілі з экспазіцыяй музея і гісторыяй раёна. Маладыя спецыялісты ўсклалі кветкі да памятнага знака ў гонар воінаў-інтэрнацыяналістаў, які нядаўна з'явіўся ў Мядзеле. Пабывалі яны ў фізкультурна-аздараўленчым цэнтры. Усяго сёлета на Мядзельшчыну прыехалі 162 маладыя спецыялісты. Найбольш з іх – 52 – працуюць у НДЦ "Зубраня", 35-ю спецыялістамі папоўніўся аграпрамысловы комплекс раёна.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



# У Залессі зачынілі адзіную аптэку

### Замест яе цяпер працуе аптэчны пункт у амбулаторыі




Фота забяпечана Дар'яй ЛІС.

У лістападзе на будынку аптэкі з'явілася паперка, што больш яна не працуе.

**СМАРГОНЬ. Напрыканцы лістапада на аптэцы ў Залессі з'явілася паперка, што яна больш не працуе.**

Тады мясцовыя жыхары сабраліся і напісалі ліст, у якім не пагаджаюцца з закрыццём. У пятніцу, 13 снежня, у вёску прыехалі мясцовыя ўлады, каб абмеркаваць праблему.

– Пра закрыццё аптэкі не сказалі нават старшыні сельсавета, – адзначае староста вёскі **Вера Карней**. – Проста закрылі і ўсё. Праз некалькі дзён мы самі сабраліся ды вырашылі, што трэба пісаць, каб аптэку вярнулі. Склалі ліст, назбіралі шмат подпісаў, дзесьці на два ці тры аркушы паперы, і адаслалі ў райвыканкам, аблвыканкам і Міністэрства аховы здароўя.

У пятніцу, 13 снежня, да жыхароў прыехалі намеснік старшыні Смаргонскага райвыканкама **Генадзь Бычко**, намеснік галоўнага доктара Смаргонскай цэнтральнай раённай бальніцы **Сяргей Кудзянчук** і загадчыца цэнтральнай раённай аптэкі Гродзенскага РУП "Фармацыя" **Таццяна Рыцікава**.

### Няма каму працаваць

– Аптэка не закрываецца, а прыпыняе сваю дзейнасць, – тлумачыць "Рэгіянальнай газеце" **Генадзь Бычко**. – Няма каму працаваць, бо былая аптэкарка сышла ў сувязі са станам здароўя. Аднак замест аптэкі працуе аптэчны пункт у амбулаторыі, дзе можна будзе набыць усе неабходныя лекі. Мы вырашылі пытанне і з ільготнымі рэцэптамі. Лекі па іх таксама можна будзе набыць у аптэчным пункце. Далей будзем вырашаць пытанне з абласным кіраўніцтвам "Фармацыі" аб накіраванні ў раён спецыялістаў. Адзін ці два чалавекі праблемы не вырашаць, бо па раёне сёння не хапае васьмі спецыялістаў. Як толькі будзе спецыяліст, аптэка запрацуе зноў.

Мясцовая жыхарка **Кіра Радзівонава** адзначае, што ў аптэчным кіёску не будзе траў, крэмаў, ласьёнаў і іншай касметыкі, якія былі ў аптэцы. Некаторых лекаў нельга будзе набыць, бо няма халадзільніка.

На гэта Генадзь Бычко заўважае, што калі халадзільнік будзе патрэбны, то яго абавязкова паставяць:

– На ўзроўні раёна мы праблему вырашылі. Аднак застаецца праблема з недахопам кадраў, бо маладых спецыялістаў пераважна накіроўваюць у буйныя гарады.

Староста вёскі Вера Карней кажа, што ў Залессі маладая спецыялістка, мясцовая дзяўчына, праходзіла практыку. Аднак накіравалі яе ў Жодзіна:

– Не пакінулі тут, бо тады яшчэ працавала наша былая аптэкарка. Цяпер яна звольнілася. Правільна, бо ўжо шмат гадоў адпрацавала пасля выхаду на пенсію. Цяпер адмовілася, хоць і прапанавалі вазіць са Смаргоні, дзе яна жыве, да нас.

### Аптэка была адным з нямногіх безбар'ерных месцаў

Для некаторых паехаць у Смаргонь, якая знаходзіцца ў 12 кіламетрах ад вёскі, не праблема. Аднак у вёсцы ёсць і пенсіянеры, і інваліды.

– Чаму аптэка павінна быць? Па-першае, гэта было адным з нямногіх "безбар'ерных" памяшканяў у Залессі, куды я магла зайсці і набыць лекі, вітаміны, крэмікі, – кажа мясцовая жыхарка **Дар'я Ліс**, інвалід-калясачнік. – Падругое, я лічу, што статус аграгарадка абавязвае да нейкага мінімальнага сэрвісу ў дачыненні да жыхароў. Па-трэцяе, рэнтабельнасць – гэта, вядома, цудоўна. Але як жа сацыяльная абарона?

**Настасся РОЎДА.**

# Мастак Уладзіслаў Страмінскі: лёс, творчасць і Вілейка




Фота забяспечана Вольгай КОЛАСАВАЙ

Уладзіслаў Страмінскі

**ВІЛЕЙКА. У лістападзе адзначалася 120-годдзе з дня нараджэння Уладзіслава Страмінскага – беларуска-польскага мастака-авангардыста, частка жыцця і творчасці якога звязаная з Вілейшчынай.**

Гэта быў асаблівы чалавек, адораны воляй і талентам. Усё яго жыццё – гэта выпрабаванне, але ён ніколі не здрадзіў мастацтву і сваім уласным прынцыпам.

### Чакала ваенная будучыня

Нарадзіўся Уладзіслаў 21 лістапада 1893 года ў Мінску. Яго бацька ўсё жыццё служыў у рускай арміі, не бачыў ён іншай будучыні і для старэйшага сына. У 11 гадоў Уладзіслаў стаў вучнем кадэцкага корпуса імя імператара Аляксандра II у Маскве.

Потым у 1911-1914 гадах вучыўся ў Пецярбургскім вышэйшым вайсковым інжынерным вучылішчы імя імператара Мікалая II. Атрымаўшы выдатную адукацыю і, напэўна, пагадзіўшыся з прадугледжанай для яго бацькамі кар'ерай вайскоўца, ён тады амаль не цікавіўся жывапісам.

Не прайшло і месяца пасля заканчэння вучылішча, як выбухнула Першая сусветная вайна. У 1916 годзе падраздзяленне, якім камандаваў Уладзіслаў Страмінскі, знаходзілася непадалёк ад мястэчка Пяршаі (цяпер у Валожынскім раёне).

Хоць на той час на ўсходнім фронце панаваў адносны спакой, але ў выніку няшчаснага выпадку Уладзіслаў быў цяжка паранены ад выбуху гранаты. 23-гадовы Уладзіслаў трапіў у маскоўскі шпіталь, дзе ў яго часткова ампутавалі левую руку і правую нагу. На адно вока ён амаль страціў зрок.

### Мастацтвам зацікавіла будучая жонка

Дапамагла не скарыцца з незайздросным будучым інваліда маладая санітарка Кацярына Кобра. Яна сама марыла стаць скульптарам-авангардыстам, была знаёмая з творчасцю куба-футурыстаў, не абмінала іх сенсацыйныя выставы, сваімі ўражаннямі дзялілася з Уладзіславам падчас наведвання яго ў шпіталі. Менавіта тады і ён зацікавіўся мастацтвам.

У шпіталі Уладзіслаў правёў амаль два гады. Выпісаўшыся ў кастрычніку 1918 года, ён наведвае Першыя Дзяржаўныя Свабодныя Майстэрні ў Маскве, дзе блізка сыходзіцца з Казімірам Малевічам.

Уладзіслаў Страмінскі надзвіва актыўна ўключаецца ў мастацкае жыццё, удзельнічае ў авангардных выставах у Маскве, Разані, Віцебску. Ніхто не мог зразумець, як Страмінскі, толькі з'явіўшыся ў мастацкім асяроддзі, стаў прафесійным творцам і адразу набыў незвычайную вядомасць. Ніка Страмінская, дачка мастака, у сваёй кнізе "Miłość, sztuka i nienawiść" ("Каханне, мастацтва і нянавісць", аб Кацярыне Кобры і Уладзіславе Страмінскім, надрукаваная ў Варшаве ў 1991 годзе), адзначае "... у маім бацьку павінен быў таіцца магутны мастацкі зарад, які нечакана ўзарваўся. Магчыма, быў бы згублены, каб не той няшчасны выпадак і калецтва. Бо быў надзвычай настойлівы ў імкненні да вызначанай мэты, амбітны, патрабавальны і бескампрамісны да сябе і іншых..."

### Мінск, Смаленск, Вільня

На пачатку 1919 года Уладзіслаў Страмінскі, натхнёны вялікімі мастацкімі ідэямі, вяртаецца ў родны Мінск і пачынае працаваць у Аддзеле выяўленчага мастацтва народнага камісарыята асветы. Тут раскрываецца яго талент як арганізатара авангарднага афармлення горада. Ён аздабляе Мінск усё новымі нязвыклымі формамі.

Восенню 1919 года Страмінскі ўжо ў Смаленску, куды быў запрошаны працаваць у якасці кіраўніка сектара мастацтва ў Аддзеле асветы, а летам 1920 года сюды з Масквы перасялілася і Кацярына Кобра. Тут яны разам выкладаюць у мастацкай майстэрні сярэдняй школы для таленавітай моладзі, тут разам утвараць філію УНОВІСа (суполка бескампрамісных сцвярджальнікаў новага мастацтва), якой у Віцебску кіраваў Казімір Малевіч.

Новы этап у сумесным творчым і асабістым жыцці Страмінскіх пачынаецца ў сярэдзіне 1922 года, калі яны вырашылі пераехаць у Вільню да родных Уладзіслава. Тут мастак ладзіць сваю першую выставу, шукае свайго творчага, ні з чым непараўнальнага адкрыцця. І знаходзіць!

У 1928 годзе выдаецца яго брашура "Унізм у жывапісе", дзе ён выкладае асновы плоскаснага разумення прынцыпаў сучаснага жывапісу. Адсюль – і сама назва. Уладзіслаў Страмінскі быў і першым мастакомуністам. Яго жывапісныя, графічныя, архітэктурныя кампазіцыі-праекты далі доказ слушнасці і дасканаласці яго тэарэтычных канцэпцый.

### Уладзіслаў Страмінскі і Вілейка

Мы ганарымся тым, што частка жыцця і творчасці Уладзіслава Страмінскага звязаная і з Вілейшчынай. У 1923-1924 гадах ён жыве і працуе ў Вілейцы. Выкладае малюнак у мясцовай гімназіі імя Генрыка Сянкевіча (будынак захаваўся да нашага часу, ён знаходзіцца па вуліцы Савецкай, 54, цяпер тут раённы цэнтр дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі). Менавіта тут Страмінскі пачаў маляваць сінтэтызаваныя вобразы, гэта было станаўленне першага этапа мастацкай рэалізацыі ў творчасці тэорыі ўнізма.

Увосень 1931 года Страмінскія пераехалі ў Лодзь, стварылі ў гэтым горадзе музей сучаснага мастацтва, аб'яднаўшы вакол сябе аднадумцаў. Тут у 1936 годзе нарадзілася іх дачка Ніка. Клопатаў прыбавілася, але неяк усё б склалася, калі б не вайна.

Шукаючы паратунку, 10 верасня 1939 года Страмінскі зноў вяртаецца ў Вілейку. Тут жыў яго брат Валяр'ян з сям'ёй. У Вілейцы мастак спадзяваўся на працяг сваёй творчай дзейнасці і адносна спакойнае жыццё. Ён зноў выкладае ў мясцовай гімназіі, актыўна ўключаецца ў культурнае жыццё горада, стварае свой слынны графічны цыкл малюнкаў "Заходняя Беларусь", дзе лёгкай контурнай уністычнай лініяй адлюстроўвае сінтэтызаваныя ўражанні ад вясковай архітэктуры, вобразаў людзей. Мастак нібы аднаўляе тыя тонкія повязі, што злучалі яго з гэтым куточкам свету, дзе ён упершыню пачаў складаць сваю авангардную тэарэтычна-практычную канцэпцыю светабачання і светаадлюстравання.

Прыгадаў ён тут і сваю мінскую маладосць, калі ў Вілейцы на свята 1-га Мая, якое адзначалася ўпершыню, зрабіў вельмі смелае, "феерычна-колеравае аздабленне з прастаравых кампазіцый". Улады яшчэ не ведалі, як кіраваць мастацтвам "у новай свабодзе", і дазволілі яму літаральна ўсё. Але заставацца далей на роднай зямлі становіцца небяспечна: пачаліся рэпрэсіі акурат для тых, хто хоць нечым выдзяляўся сваімі здольнасцямі і паводзінамі.

### Лічыў сябе беларусам

Пражыўшы ў Вілейцы дзевяць месяцаў, у маі 1940 года Страмінскія зноў вяртаюцца ў Лодзь. Тут, абапіраючыся на вілейскія дасягненні, мастак працягвае працу над графічнымі цыкламі.

Пасля вызвалення Польшчы актыўна супрацоўнічае з музеем сучаснага мастацтва ў Лодзі, заснавальнікам якога быў і куды перадаў свае карціны і сем цыклаў малюнкаў.

Ён увесь час памятаў, што нарадзіўся на беларускай зямлі, лічыў сябе беларусам. І калі ў Лодзі сустракаў беларуса, размаўляў з ім па-беларуску.

Апошнія гады жыцця і творчасці мастака былі таксама трагічнымі. Ніхто не змог абараніць паважанага маэстра перад тым тэрорам, які пачаўся супраць яго напрыканцы 40-х гадоў, калі да ўлады ў Польшчы прыйшлі камуністы. Яго звольнілі з працы, выключылі з Саюза польскіх мастакоў.

26 снежня 1952 года мастака не стала. Ён памёр ад цяжкай хваробы і амаль у поўнай адзіноце. На год раней памерла яго жонка.

Але назаўжды выкрасліць з культурнай памяці творчасць Уладзіслава Страмінскага і Кацярыны Кобры не ўдалося. Сёння іх мастацтва шырока вядомае і прызнанае не толькі ў Польшчы, але і ва ўсім свеце. Выставы твораў мастака ладзіліся ў многіх краінах Еўропы і нават у ЗША. І ніколі на Радзіме.

### Візіт дачкі мастака ў Вілейку

У 1993 годзе, калі адзначалася 100-годдзе з дня нараджэння Уладзіслава Страмінскага, было шмат зроблена для папулярызацыі творчасці мастака на Беларусі. Па сутнасці, было вернутае імя славутага творцы ў наша айчыннае мастацтва. А ў красавіку 1994 года ўпершыню Беларусь наведала Ніка Страмінская. Гэты візіт стаў для яе вялікай падзеяй. "Шчасцем было ўжо дакрануцца падэшвамі да той зямлі, па якой хлопчыкам хадзіў мой бацька", – не ўтойвала сваіх пачуццяў жанчына. Пасля Мінска наведала яна і Вілейку. "Дзіўна, але я ўбачыла, наколькі трапна мой бацька адлюстроўваў гэтае мястэчка ў цыкле ўністычных, надзвычай лаканічных малюнкаў "Заходняя Беларусь", – падзялілася сваімі ўражаннямі падчас сустрэчы ў Вілейскім краязнаўчым музеі Ніка Страмінская і пакінула ў дар сваю кнігу.

### У памяць пра Страмінскага

Сёлета ў маі ў Вілейцы адбыўся мастацкі пленэр. Прайшоў ён па ініцыятыве нашага знакамітага земляка, загадчыка кафедры скульптуры мастацкага факультэта Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў **Уладзіміра Слабодчыкава.** Над стварэннем трох кампазіцый працавалі шэсць студэнтаў. Скульптурную кампазіцыю з элементамі ўнізма ў гарэльефе, якая поўнасцю вызначае творчасць мастака, выканалі **Фёдар Саратцаў** і **Станіслаў Шашкоў** і прысвяцілі памяці Уладзіслава Страмінскага. Устаноўлена яна каля кінатэатра.

**Вольга КОЛАСАВА,**
**старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея.**

**У адным з наступных нумароў мы апублікуем успаміны Нікі Страмінскай аб вілейскім перыядзе жыцця яе бацькоў.**

## Прайшла вечарына памяці Уладзіслава Страмінскага

У мінулую суботу ў Вілейцы прайшла вечарына памяці Уладзіслава Страмінскага.

Мастак Эдуард Мацюшонак расказаў, у якіх гістарычных абставінах з'явіўся на небасхіле авангарднага мастацтва Уладзіслаў Страмінскі.

У біяграфіі Страмінскага знакавыя месцы займаюць некалькі гарадоў: Мінск, дзе нарадзілася будучая зорка авангарда, Масква, дзе ён пазнаёміўся са сваёй жонкай і выдатным скульптарам Кацярынай Кобрай, Віцебск, дзе ён прайшоў школу аўтара "Чорнага квадрата" Казіміра Малевіча, Лодзь, дзе Страмінскі стаўся і як творца, і як тэарэтык унізму, і Вілейка, на якую прыпадаюць два не менш важных перыяды яго жыцця.

На вечарыне выступілі дырэктар музея Сяргей Ганчар, мастак Барыс Цітовіч, які падарыў музею сваю карціну з выявай Страмінскага і яго жонкі Кацярыны Кобры, старшы навуковы супрацоўнік установы Вольга Коласава, якая добра памятае прыезд у 1994 годзе з Лодзі ў Вілейку дачкі Кацярыны Кобры і Страмінскага Нікі.

Фотарэпартаж з мерапрыемства глядзіце на нашым сайце




**Аддзел інфармацыі.**

■ МАЮ ПРАВА

# Стаянка на Хмяльніцкага

**МАЛАДЗЕЧНА. У рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты" звярнулася наша чытачка, старшыня аднаго з жыллёвых кааператываў Маладзечна, з праблемай, якую яна не можа вырашыць апошнія некалькі гадоў.**

Падчас падрыхтоўкі да "Дажынак", у 2011 годзе, на вуліцы Хмяльніцкага "Маладзечнаводаканал" – камунальнае ўнітарнае прадпрыемства – па адпаведным даручэнні райвыканкама пабудаваў аўтамабільную стаянку. З таго часу, кажа жанчына, жыхары дома №40, у прыватнасці сама скаржніца, не могуць спакойна спаць з-за шуму вялікагрузных аўтамабіляў на стаянцы. Часцей за ўсё – гэта рэфрыжэратары, якія ў цёплы час года не выключаюцца цэлую ноч.

Маладзечанка звярталася са скаргамі ў КУП "Маладзечнаводаканал", аддзел унутраных спраў райвыканкама, пракуратуру, райаддзел па надзвычайных сітуацыях, упраўленне ўнутраных спраў аблвыканкама, Мінаблвыканкам, адміністрацыю Прэзідэнта.

Яна скардзілася, у прыватнасці, на тое, што, будуючы аўтастаянку для вялікагрузных аўтамабіляў, у тым ліку рэфрыжэратараў, ні мясцовы аддзел архітэктуры, ні санэпідстанцыя не разабраліся ў сутнасці аб'екта пры выбары ўчастка: "у загружанага рэфрыжэратара кругласутачна працуе кампрэсарная ўстаноўка вялікай магутнасці. Максімальная колькасць такіх аўтамабіляў даходзіла да 25 штук. Наша жыццё ператварылася ў кашмар... Стаянку завалілі старымі пакрышкамі. На агароджы напісалі: "Картынг".

Па скаргах праводзіліся праверкі, накіроўваліся даручэнні з патрабаваннем ухіліць некаторыя парушэнні. Тым не менш стаянка заставалася стаянкай і застаецца да гэтага часу.

Адзін бок, скаржніца, працягвае змагацца за права жыць без стаянкі пад сваімі вокнамі (стаянка знаходзіцца ў 170 метрах ад дома), іншы бок (бакі) даказвае, што правы жыхароў горада тут не парушаныя. На думку ж аўтаркі скаргаў, усе адказы ў яе адрас нагадваюць адпіскі: "Мне адказваюць цытатамі з тлумачальнай запіскі праекта, цытуюць тое, што павінна быць, а не тое, што ёсць на самой справе".

Кожны спасылаецца на нарматыўныя акты. Заўважым на палях, што скаржніца ўсё жыццё адпрацавала архітэктарам і некампетэнтнай у пытаннях, якія яна ўзнімае, яе не назавеш. Таму ў адказах чыноўнікаў яна часта, па яе словах, знаходзіць слабыя месцы або няшчырасць ці нежаданне бачыць праблему.

Рэдакцыя не можа замяніць сабой ні экспертаў, ні наглядныя ці іншыя органы, якія павінны стаяць на абароне правоў чалавека. Тым не менш канфлікт, які працягваецца не адзін год, лагічна было б бачыць нейкім чынам вырашаным.

– А чаму вы не звяртаецеся ў суд? – пытаюся ў нашай чытачкі.

Жанчына адказвае, што для пенсіянера гэта не зусім танна. Ну і спадзяецца, што такія праблемы можна вырашаць без суда.

– Яна не выйграе суд, – гавораць мне ў цэнтры гігіены і эпідэміялогіі. Бо, на наш погляд, стаянка можа эксплуатавацца.




Архіў "РГ".

**Стаянка па Хмяльніцкага не дае спакою жыхарам дома №40.**

Проста павінны выконвацца правілы эксплуатацыі. У тым ліку па часе работы рухавікоў рэфрыжэратараў, які абмежаваны на самой справе. Але тое, што яна змагаецца за свае правы і многага дабілася – цяпер ідуць работы па ацэнцы рызыкі для здароўя насельніцтва (АРЗН), – гэта адназначна яе заслуга.

КУП "Маладзечнаводаканал" у адказе на наш запыт па гэтай праблеме піша, што прадпрыемствам праведзены разлік санітарна-ахоўнай зоны для аўтастаянкі па шумавым уздзеянні. Па выніках разліку шумавога ўздзеяння, "якое ствараюць крыніцы шуму на тэрыторыі стаянкі для аўтамабіляў", перавышэння гранічна дапушчальнага ўзроўню гуку і ўзроўняў гукавога ціску ў так званых актыўных палосах не ўстаноўлена. Таксама, як вынікае з адказу, КУП выканала работы па азеляненні тэрыторыі, якая прылягае да аўтастаянкі ўздоўж вуліцы Хмяльніцкага. Дрэвы і кусты выконваюць ролю механічнага і біялагічнага фільтра.

Пенсіянерка скептычна ставіцца да факта азелянення, бо дрэвам і кустам трэба яшчэ вырасці.

Перад выхадам гэтай публікацыі "Маладзечнаводаканал" паведаміў, што на стаянцы пасля шэрагу скаргаў заведзены ўліковы журнал аўтамабіляў і з моманту яго завядзення больш за пяць вялікагрузных аўтамабіляў пры дапушчальнай колькасці 22 там не паркавалася. Да таго ж, паміж стаянкай і домам №40, аб якім ідзе гаворка, планам забудовы прадугледжваецца будаўніцтва яшчэ трох дамоў. І ўсе экалагічныя нормы там абавязкова будуць вытрыманыя.

Тым не менш, кропку ў гэтай гісторыі мы б таксама не ставілі, пачакаўшы вынікаў згаданай ужо ацэнкі рызыкі для здароўя насельніцтва.

Пакуль зіма, то вастрыня праблемы, па словах іншых жыхароў дома і самой скаржніцы, знізілася. Машынам-рэфрыжэратарам няма неабходнасці уключаць халадзільнікі. Але напярэдадні лета. Магчыма, "РГ" вернецца да гэтай праблемы. Толькі мы маем спадзеў, што прычын для чарговых скаргаў суседзяў аўтастаянкі не будзе.

**Мікола ГАЙДУК.**

■ ВЫТВОРЧАСЦЬ

## "Забудова" не плануе скарачэнні

**МАЛАДЗЕЧНА. У рэдакцыю "РГ" прыйшоў ліст ад работнікаў ААТ "Забудова" са скаргай на парушэнне працоўных дагавораў.**

Паводле ліста, 25 лістапада работнікам выплацілі толькі палову заробку, а не ўвесь. Людзі не ведалі, калі выплацяць астатнія грошы, а просьбы сустрэцца з кіраўніцтвам не задаволілі.

Яшчэ адна турбота калектыву – загад аб значным скарачэнні, які нібыта рыхтуюць. Яны тлумачаць, што з-за праблем з закупкамі сыравіны работы не хапае, а час прастою не аплачваецца.

На наш запыт ААТ "Забудова" адказала, што заробак выплацілі цалкам двума часткамі – 25 і 29 лістапада.

Затрымку патлумачылі штогадовым сезонным падзеннем попыту на будаўнічыя матэрыялы ў зімовы час і на знешнім, і на ўнутраным рынку. Яшчэ адна праблема – наяўнасць дэбіторскай запазычанасці.

Паводле адказу, скарачэнні рабочых месцаў не плануюцца. Планы вытворчасці на 2014 год прадугледжваюць загрузку магутнасцяў напоўніцу.

Прадпрыемства патлумачыла, што існуюць асобныя перабоі ў пастаўцы сыравіны і матэрыялаў, якія звязваюць з недахопам абаротных сродкаў, але іх вырашаюць у рабочым парадку.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Даведка "РГ". Дэбіторская запазычанасць** – сума пазык, якія павінны прадпрыемству іншыя прадпрыемствы за атрыманне паслуг ці куплю тавару.



| Курсы валют НБ РБ | 12.12 руб. | 19.12 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 9 410,00 | **9 460,00** |
| Еўра | 12 950,00 | **13 030,00** |
| Злоты | 3 097,48 | **3 116,71** |
| Літ | 3 749,38 | **3 772,38** |
| Расійскі рубель | 287,50 | **287,50** |
| Грыўня | 1 140,95 | **1 142,51** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9400/9470 | **9470/9580** |
| Еўра | 12913080 | **13030/13150** |

| Цэны на рынку (Маладзечна) ПРАДУКТЫ | 11.12 Цана руб. | 18.12 |
|---|---|---|
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 110500 | **110100** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45050 | **45050** |
| **Ялавічына,** (выразка), 1 кг | 80000 | **85000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 23700 | **24300** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 25500 | **25500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 32500 | **32500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 85000 | **89000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 11500 | **11500** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 14000 | **12000** |
| **Алей** | 14800 | **16000** |
| **Маянэз**, 200 г | 5000 | **5000** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7500 | **7500** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 10000 | **10000** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 5500 | **5500** |
| **Капуста**, 1 кг | 3600 | **3500** |
| **Морква**, 1 кг | 4500 | **4500** |
| **Буракі**, 1 кг | 4500 | **4500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 16000 | **16000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 15000 | **15000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 17500 | **16500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 10500 | **17500** |
| **Агуркі**, 1 кг | 20500 | **26500** |
| **Перац**, 1 кг | 26000 | **25000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 22000 | **20000** |
| **Бананы**, 1 кг | 12000 | **12000** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 8500 | **12000** |
| **Грушы**, 1 кг | 14000 | **8000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 13000 | **13000** |
| **Масла**, 1 кг | 87000 | **80000** |
| **Тварог**, 1 кг | 40000 | **40000** |
| **Бульба**, 1 кг | 6000 | **4000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 20000 | **20000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **50000** |

■ ТРАНСПАРТ

## Як будзе працаваць чыгунка на святы

**МАЛАДЗЕЧНА.** У перыяд калядных і навагодніх святаў будзе зменены парадак курсіравання рэгіянальных ліній эканом-класа.

**На ўчастку Маладзечна-Мінск**

**24 і 31 снежня**, а таксама **4 студзеня** – як па пятніцах.

**25 снежня і 1, 2, 5, 6, 7 студзеня** – як па нядзелях.

**3, 10, 11 студзеня** – як па рабочых днях.

**На ўчастках Маладзечна-Ліда, Маладзечна-Гудагай, Маладзечна-Крулеўшчына**

**24, 31 снежня** і **3, 4, 10, 11 студзеня** - як па рабочых днях.

**25 снежня** і **1, 2, 5, 6, 7 студзеня** – як па выхадных.

**Па інфармацыі станцыі Маладзечна.**





СЛУЖБА 101

# Як пазбегнуць няшчасця на Новы год

**МАЛАДЗЕЧНА. У перадпавагодні час рэзка павялічваецца колькасць пажараў і траўмаў з-за парушэння правілаў пажарнай бяспекі пры падрыхтоўцы да святаў. Многія неасцярожна абыходзяцца з піратэхнічнымі вырабамі.**

Папярэдзіць надзвычайныя сітуацыі з такімі наступствамі – мэта рэспубліканскай акцыі "Бяспечны Новы год!"

Акцыя праходзіць ад 9 да 28 снежня ў тры этапы. У яе межах работнікі МНС наведваюць працоўныя і вучнёўскія калектывы, а таксама буйныя гандлёвыя аб'екты, дзе расказваюць аб правілах бяспекі пры падрыхтоўцы да навагодніх і калядных святаў.



Фота luxfon.com.

Паклапаціцеся пра тое, каб ёлка стаяла ў правільным месцы.

### Ставіць ялінку трэба па правілах

Ставячы ялінку дома, не забудзьцеся прыбраць дываны, выкарыстоўвайце толькі ўстойлівыя падстаўкі.

Галінкі і верхавінка прыгажуні не павінны дакранацца да сцен, столі, мэблі і іншых хатніх рэчаў. Нельга ставіць ёлку каля ацяпляльных прыбораў, абкладваць яе ватай.

Электрагірлянды павінны быць толькі заводскія і без нават самых нязначных, на ваш погляд, пашкоджанняў.

Не пакідайце ёлку без нагляду з уключанай гірляндай.

### Калі ёлка загарэлася

Калі ўсё ж ёлка загарэлася, адключыце гірлянду і паваліце дрэва на падлогу, каб полымя не падымалася ўверх, накрыйце яго шчыльнай тканінай. Калі ёлка натуральная, тушыць можна вадой.

Калі штучная, то ні ў якім разе не выкарыстоўвайце ваду. Падчас гарэння сінтэтычныя матэрыялы плавяцца і расцякаюцца, а вада на падпаленай паверхні прывядзе да распырсквання падпаленых кропель. Так павялічваецца плошча гарэння.

Штучную падпаленую ёлку лепш засыпаць пяском або прымяніць вогнетушыцель, калі ёсць. Памятайце, што падпаленыя палімеры вельмі таксічныя, вылучаюць атрутныя рэчывы. Калі з агнём не ўдалося справіцца за першыя хвіліны, пакіньце памяшканне.

### Як выбіраць піратэхніку

Калі выкарыстоўваеце піратэхнічныя вырабы, звярніце ўвагу на тэрмін прыдатнасці, цэласнасць заводской упакоўкі. Не купляйце, калі вырабы маюць дэфекты: мятыя, вільготныя, з расколінамі і іншымі пашкоджаннямі корпуса або кнота. Набывайце піратэхніку толькі ў спецыялізаваных крамах, якія маюць сертыфікат.

Перад выкарыстаннем абавязкова прачытайце інструкцыю па ўжыванні.

### Паклапаціцеся, каб свята не азмрочылася

Міністэрства па надзвычайных сітуацыях віншуе вас з надыходзячымі святамі! Моцнага здароўя, спаўнення жаданняў, новых дасягненняў і 365 бяспечных дзён! Каб будучыя святы прыносілі толькі радасць, будзьце ўважлівыя і асцярожныя! Беражыце сябе і сваіх блізкіх.

**Марына ГАНЧАРОВА, старшы інспектар групы прапаганды і навучання Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

### Аўтобус наехаў на жанчыну

**МАЛАДЗЕЧНА.** 13 снежня ля вёскі Мясата кіроўца аўтобуса наехаў на пешахода.

Здарэнне адбылося каля 22.00 на трасе Мінск-Маладзечна-Нарач. Кіроўца рухаўся ў бок Маладзечна на аўтобусе МАЗ, што належыць аўтапарку № 4.

Непадалёк ад вёскі Мясата наехаў на 55-гадовую мясцовую жыхарку. Ад атрыманых траўмаў жанчына загінула на месцы. Флікера на ёй не было. Узбуджаная крымінальная справа.

### Траўмаваў на пешаходным пераходзе

**МАЛАДЗЕЧНА.** Здарэнне адбылося ля магазіна "Базар" па Вялікім Гасцінцы 14 снежня. Каля 20.00 28-гадовы кіроўца збіў жанчыну.

Кіроўца аўтамабіля "Дачыя Логан" рухаўся з боку Мінска. На пешаходным пераходзе не заўважыў жанчыну, якая пераходзіла яго на забараняльны сігнал святлафора. З-за здарэння 65-гадовая жанчына атрымала траўмы.

Яе даставілі ў гарадскую бальніцу. ДАІ правodзіць праверку.

### За парушэнні дзяцей пакараюць бацькоў

**МАЛАДЗЕЧНА.** Ад 25 снежня стартуе акцыя па выяўленні парушэнняў правілаў дарожнага руху дзецьмі.

Супрацоўнікі дзяржаўтаінспекцыі разам з райвыканкамам правядуць рэйды па вуліцах горада. Асаблівая ўвага будзе звернутая на месцы, дзе дзеці пераходзяць праезную частку.

Калі знойдуць такія парушэнні, бацькоў юных парушальнікаў прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці. Акцыя прадоўжыцца да 7 студзеня 2014 года.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**



СЛУЖБА 101

## Загінула на пажары

**ВАЛОЖЫН. Здарэнне адбылося 12 снежня ў Валожыне па вуліцы Шчарбіны.**

Пра здарэнне супрацоўнікам МНС паведаміла сацыяльны работнік, якая ўбачыла, што з дома ідзе дым.

Калі прыехалі ратавальнікі, дом быў задымлены, а падлога – пашкоджаная.

Магчыма, пажар здарыўся па неасцярожнасці гаспадыні, калі тая паліла печ, бо побач ляжалі вуглі.

– Аднак ці сапраўды жанчына загінула у пажары, пакажа экспертыза, – кажа інспектар інспекцыі дзяржпажнагляду Валожынскага РАНС **Алеся Радзвіловіч**. – Можа быць, смерць наступіла яшчэ да таго, як здарыўся пажар.

**Аддзел інфармацыі.**

## Каб выратаваць, выбівалі дзверы

**ВАЛОЖЫН. Пажар адбыўся 15 снежня каля 22.00 у вёсцы Саланая на Валожыншчыне.**

Па словах суседзяў, якія патэлефанавалі ў МНС, там павінен быў быць чалавек.

Калі прыехалі ратавальнікі, дах і частка дома былі ў агні. Дзверы аказаліся зачыненымі, і супрацоўнікам МНС давялося іх выбіваць.

У доме быў 50-гадовы гаспадар, яго вывелі на паветра і аказалі даўрачэбную дапамогу.

Мужчыну шпіталізавалі ў рэанімацыйнае аддзяленне Валожынскай ЦРБ.

Пацярпелы часова беспрацоўны.

Пра здарэнне паведаміла інспектар інспекцыі дзяржпажнагляду Валожынскага РАНС **Алеся Радзвіловіч**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Адключылася электрычнасць. Пажар

**МЯДЗЕЛ. Паведамленне пра пажар у вёсцы Мокрыца Занарацкага сельсавета паступіла каля 13.00 11 снежня.**

Патэлефанавала 18-гадовая дачка гаспадароў. Яна ў гэты час была дома, глядзела тэлевізар. Раптам знікла электрычнасць. Дзяўчына выйшла паглядзець, што зрабілася, і ўбачыла дым. Выбегла з дома і патэлефанавала па нумары "101".

– Калі ратавальнікі прыбылі на месца, у доме было задымленне, адкрытага полымя не было, – паведаміў інспектар Дзяржпажнагляду аддзела па надзвычайных сітуацыях **Ігар Балаш**. – У выніку пажару выгараў пакой дома, знішчаная маёмасць у ім.

Прычына пажару ўстанаўліваецца.

**Аддзел інфармацыі.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Не справілася з кіраваннем

**МАЛАДЗЕЧНА. 23-гадовая дзяўчына, кіруючы аўтамабілем "Хундай", трапіла ў аварыю ля вёскі Маркава.**

Не разлічыўшы хуткасць і ўмовы надвор'я, дзяўчына не справілася з кіраваннем. Машына з'ехала ў правы кювет і ўрэзалася ў дрэва.

Кіроўца атрымала цялесныя пашкоджанні, медыцынская дапамога была ёй аказаная на месцы, шпіталізацыя не спатрэбілася.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Да смерці збіў качаргой

**ВІЛЕЙКА. У шэсць гадзін вечара 11 снежня ў вёсцы Кавалі ў сваім доме знайшлі труп 50-гадовай жанчыны: на ім былі сляды збівання.**

Устаноўлена, што гадзінай раней у сварцы пасля сумеснага распівання спіртнога яе збіў качаргой і драўлянай палкай 43-гадовы сужыцель. Ён быў раней судзімы, паведаміў упраўленне ўнутраных спраў Мінаблвыканкама.

Мужчына затрыманы. Вілейскі райаддзел Следчага камітэта Беларусі ўзбудзіў крымінальную справу: гэткія дзеянні могуць быць пакараныя пазбаўленнем волі на тэрмін ад пяці да пятнаццаці год.

**Аддзел інфармацыі.**

ПРЭМ'ЕРЫ

# Рыгор Сарока паставіў другі помнік Агінскаму

**МАЛАДЗЕЧНА. Трэцяя прэм'ера оперы "Міхал Клеафас Агінскі. Невядомы партрэт" пройдзе ў дзень яго нараджэння – 25 верасня.**


Фота забяспечана Вадзімам ЗАМАРАМ.

Сцэна з оперы "Міхал Клеафас Агінскі. Невядомы партрэт".

Першая прэм'ера прайшла 12 снежня ў Палацы культуры. Другая – праз два дні.

– Як я сябе магу адчуваць? Пры двух аншлагах, бітком набітых залах? – дзеліцца ўражаннямі **Рыгор Сарока,** галоўны дырыжор сімфанічнага аркестра Маладзечанскага музычнага каледжа імя Агінскага, мастацкі кіраўнік праекта пастаноўкі оперы. – Хто яшчэ можа ў Маладзечне запоўніць дзве залы?

У пастаноўцы браў удзел Маладзечанскі маладзезвы музычны народны тэатр. Дарэчы, яго заснавалі яшчэ ў 2007 годзе пры каледжы. Кампазітар – **Алег Залётнеў**.

– Сёння ў нашым горадзе папса можа сабраць 200, 300 чалавек, але каб аншлаг? Гэта вялікі поспех, – лічыць спадар Рыгор. – І я шчаслівы. Шчаслівы, што падняў такую глыбу, што зрабіў горад оперным.

На прэм'еру запрасілі шмат гасцей: і з вобласці, і з Літвы. Прыехала сем дырыжораў з усёй Беларусі, шмат музыкаў і творчых людзей.

Старшыня Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Яхнавец** быў ажно на дзвюх прэм'ерах.

– Мне з Літвы потым патэлефанавалі, – прыгадвае спадар Рыгор, – сказалі, што паставіў другі помнік Агінскаму.

Частку касцюмаў для артыстаў шылі на грошы гранту, які праект атрымаў ад вобласці. Атрымалася пашыць касцюмы ўсім салістам. Яшчэ частку бралі з оперы "Яўген Анегін", дзеянні ў якой таксама адбываюцца ў 18 стагоддзі. Для гэтай оперы яшчэ раней пашылі 250 касцюмаў.

Пад заказ у Мінску рабілі і банер з краявідамі Залесся тых часоў. Таксама мэблю і іншыя сцэнічныя атрыбуты.

– Цяпер нам прапануюць увогуле зрабіць тэлевізійную версію, – кажа спадар Рыгор. – Думаем і аб яе канцэртным выкананні, каб можна было з ёй выехаць за мяжу. Ужо зацікавілася операй Гродзеншчына, прапануюць нам выступіць на іх сцэне.

На думку Рыгора Сарокі, опера ў нашым горадзе – добрая падстава зрабіць яго культурнай сталіцай вобласці ў наступным годзе:

– Опера прагучала паўсюль. Дзякуючы ёй расце і аўтарытэт горада.

### Дзяўчаты змагаліся за сукенкі

Перад операй быў гарачы час: рэпетыцыі, якія доўжыліся ледзь не цэлы дзень з перапынкам на абед, стварэнне вобразаў.

Сукенкі дзяўчатам хору дасталіся розныя: каму бальныя з пышным нізам, каму не пышныя і больш простыя. Кожная ж хацела выглядаць як мага лепш і імкнулася "адваяваць" сабе самую прыгожую.

Шмат часу пайшло і на прычоскі ды макіяж, без якіх не створыш вобраз дамы 18 стагоддзя. Пасля прэм'ер некаторым давялося доўга расчэсваць шалёныя начосы.

І хоць дзяўчатам давялося не соладка, ім было для каго старацца.

**Настасся РОЎДА.**

МУЗЫКА

## Рэпер з Вілейкі прэтэндаваў на прэмію Тузіна Гітоў

**ВІЛЕЙКА. 12 снежня на канцэрце-цырымоніі "Героі года" партала Тузін Гітоў агучылі імёны саміх герояў.**

Рэпер з Вілейкі **Юры Касьцень**, вядомы ў музычным асяроддзі як **SP Kava**, прэтэндаваў на намінацыю "Дэбют года".

У шорт-лісце яго прадставілі так: "Удзельнік рэп-дуэта PANaNieba зрабіў выдатную заяўку на будучыню і выдаў сёлета дэбютны міні-альбом "Што табе сніцца". Кожны з яго трэкаў цікавы сваёй нябанальнай пабудовай, а да ўсяго запісаны пры ўдзеле жывой гітары і дуды".

Падчас выступлення SP Kava вядучы Алег Хаменка адзначыў, што слухае яго музыку ў машыне, і параіў гэта рабіць іншым.

Разам з SP Kava на намінацыю было яшчэ чацвёра прэтэндэнтаў: Hurma, Dzivia, Tonqixod і Navi.

"Дэбютам года" стаў гурт Hurma.

"Героямі года" стаў гурт Re1ikt. На званне разам з ім прэтэндавалі :B:N:, N.R.M., Ляпіс Трубяцкой і BosaeSonca.

Перад тым як назваць імёны пераможцаў, вядучы Алег Хаменка адзначыў:

– Для мяне ўсе намінаваныя гурты найлепшыя. Гэта вядомыя каманды ў сэнсе сённяшняга гучання.

**Настасся РОЎДА.**


Фота Настасі РОЎДЫ.

Выступае рэпер з Вілейкі SP Kava.

ТВОРЧАСЦЬ

# Дудар Сяргей Ярук: “Мяне кліча голас продкаў”

**МАЛАДЗЕЧНА. Сяргею Яруку 30 год. Сябе ён называе музыкай-мультыінструменталістам. Працуе настаўнікам па класе духавых інструментаў у Лебедзеўскай школе мастацтваў.**

Да нас у рэдакцыю Сяргей прыйшоў з музычнымі інструментамі, на якіх іграе: дуда, дудка, жалейка, акарына, чаротка… І кожную паўзу ў размове запаўняў гукамі гэтых інструментаў.

– У дзяцінстве я шмат хварэў на ларынгіт. Аднойчы ў санаторыі сталічны прафесар параіў маёй маці Ірыне Іванаўне аддаць мяне на плаванне або ў духавыя інструменты. Каб хвароба адступіла, трэба было навучыцца правільна дыхаць, як гэта робяць ёгі. Выбар быў на карысць музыкі. Я вучыўся ў музычным класе гімназіі-каледжа мастацтваў па спецыяльнасці кларнет. І, ведаеце, як стаў займацца на духавых музычных інструментах, з цягам часу пра хваробы забыўся.




Сяргей Ярук: гучанне акарыны можна параўнаць з Беларуссю.

### Ва ўніверсітэце навучылі іграць не толькі “унца-унца”

**– Як вы звязалі свой музычны лёс з народнымі беларускімі інструментамі?**

– Напрыканцы навучання ў Маладзечанскім музычным вучылішчы стала пытанне: і што далей? Аднойчы выпадкова трапіў на рэпетыцыю капэлы “Гуды” (калектыў з універсітэта культуры), дзе ўпершыню пачуў гучанне беларускіх народных музычных інструментаў: дуды, жалейкі, акарыны. Так выпадкова пачутая музыка стала для мяне лёсавызначальнай. Калі вам пашчасціць трапіць на канцэрт народнай музыкі, вы таксама зразумееце, што атмасфера і энергетыка такой музыкі проста не могуць пакінуць раўнадушным нікога. Так і атрымалася, што паступіў у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры на кафедру беларускіх народных інструментаў. Адразу хачу сказаць усім тым, хто лічыць, што ва ўніверсітэце культуры вучаць іграць толькі “унца-унца”, што гэта зман. Больш творчай і сямейнай атмасферы я не адчуў нідзе.

Пасля заканчэння універсітэта была яшчэ магістратура. Таму, калі Маладзечна феерверкамі і песнямі святкавала сваё 620-годдзе, я зубрыў гісторыю мастацтваў, надта ж не хацелася мне ехаць у Касцюковічы па размеркаванні.

### Жыхары Лебедзева ведаюць, як моцна гучыць дудка

Сяргей бярэ ў рукі дудку і пачынае іграць мелодыю Вівальдзі.

– Бачыце, як атрымоўваецца. Беларуская дудка – гэта не толькі самы распаўсюджаны інструмент, але і ўніверсальны. Можна іграць што захочаш – ад класічнай музыкі да рокавых рэчаў.

Чаму я кажу самы распаўсюджаны, таму што гэты інструмент вядомы ў многіх краінах свету. Прынамсі, у Расіі яго называюць свірэль, на Украіне – сапілка.

Дудка была інструментам пастухоў. Трэба ж было бавіць час у полі. Але, што дзіўна, музыкамі пастухоў не лічылі, хоць яны маглі іграць вельмі добра. А вось калі ў вёсцы было якое вялікае свята: Вялікдзень ці Каляды, пастухоў пастухамі ніхто не меў права называць. Яны былі музыкамі, іх запрашалі паіграць, каб узняць настрой. Нават словы такія ёсць: “Ох, без дудкі, без дуды ногі ходзяць не туды”… А які моцны гук у дудкі, ведаюць усе жыхары Лебедзева, што ідуць у краму праз музычную школу.

### Саўка ды Грышка – арганізатары вяселляў

– Што датычыцца дуды, то я лічу несправядлівым, што толькі цымбалы назвалі нацыянальным інструментам – сімвалам Беларусі. Старадаўняя дуда таксама магла б паспрачацца за званне візіткі нашай краіны.

Дудары здавён лічыліся чараўнікамі. Калі верыць легендам, то і ад хваробы маглі вылечыць, і дождж або навальніцу выклікаць.

**– А вы адчуваеце ў сабе такую сілу?**

– З надвор'ем я не эксперыментаваў. Але **Святлана Яфімава**, настаўніца па народных спевах, удзельніца фальклорнага тэатра “Госціца”, з якой я працаваў, аднойчы сказала, што гукі майго выканання яна адрозніць ад любых іншых. Гаворыць, мая дуда гучыць мякка, шчыра.

А ці вядома вам, што радок з песні пра Саўку да Грышку мае зусім не тое значэнне? Давайце ўспамінаць: “Саўка да Грышка ладзілі дуду, павесяліцца і прагнаць нуду”. На першы погляд, гаворка пра тое, як майстры рабілі музычны інструмент, але насамрэч, дуда – гэта сінонім вяселля. Гаворачы сучаснай мовай, Саўка ды Грышка былі арганізатарамі вяселля, а ладзіць дуду – гэта значыць, рыхтавацца да вяселля.

**– А дуда і валынка, гэта адно і тое ж? Па знешнім выглядзе быццам аднолькавыя.**

–Так, у Шатландыі гэты музычны інструмент называюць валынкай (bag-pipe). Адзін з англійскіх даследчыкаў, які займаўся вывучэннем валынак, выказаў меркаванне, што ў Шатландыю яны трапілі з усходу Еўропы. А ўсход Еўропы – гэта мы і ёсць. У Беларусі ад старажытнасці дуда была распаўсюджаная ў паўднёва-заходняй частцы Мінскай вобласці, на Гродзеншчыне і Віцебшчыне. Можа, я таму і па-асабліваму адношуся да гэтага інструмента, кліч продкаў, крыві.

**– Гучанне якога інструмента, на якім вы іграеце, вы маглі б параўнаць з самой Беларуссю?**

– Гучанне акарыны. Дарэчы, іх выраблялі і ў Лебедзеве. Гучанне гэтага музычнага інструмента сціплае, прыгожае, мілагучнае, душэўнае, яно заварожвае…Усе гэтыя эпітэты, на мой погляд, і адпавядаюць нашай радзіме. Калі я іграю на гэтым музычным інструменце, перада мной адразу ж паўстаюць беларускія краявіды: рэчкі, росныя лугі, магілкі з вершаў Янкі Купалы.

**– Вы сказалі, што на народных інструментах можна іграць абсалютна любую музыку. А якой вы аддаяце перавагу?**

– Я мяркую, што на народных інструментах правільна іграць народную музыку. Якой бы прыгожай ні была музыка вядомых класікаў, а бліжэй да сэрца ўсё ж такі наша, беларуская, спрадвечная.

– Ды што я вам усё на словах расказваю? Паслухайце, самі ўсё зразумееце, – спыняе нашу гутарку Сяргей, і пакой напаўняецца гукамі, пад якія нашы продкі ладзілі вяселлі, святкавалі народзіны дзіцяці або смуткавалі аб тым, што назаўсёды развітваюцца з дарагімі сэрцу людзьмі.



Наталля ТУР.
E-mail: turenok_08@mail.ru

Больш фота, відэа на сайце




ТЭАТР

## У “Батлейку” на святы прыляціць Карлсан

**МАЛАДЗЕЧНА. Святочныя ранішнікі пачнуцца ў маладзечанскім лялечным тэатры ад 18 снежня і скончацца пасля 5 студзеня.**

У “Батлейку” Карлсан прыляціць не адзін, а з цэлай групай падтрымкі. З ім будзе Малыш, Дзед Мароз, Снягурачка і іншыя казачныя героі, прытым не толькі добрыя. Сярод іх будуць нават рабаўнікі.

Героі будуць гуляць з маленькімі гледачамі, плесці інтрыгі, а потым іх разблытваць.

Дзед Мароз са Снягурачкай збяруць усіх гледачоў каля навагодняй ёлкі, павіншуюць і ўручаць салодкія прызы.

– Каляды ды Новы год – сямейныя святы, – лічыць галоўны рэжысёр Мінскага абласнога тэатра лялек “Батлейка” **Мікалай Андрэеў**. – І галоўныя святы ў нашым тэатры. Галоўнае, што ў іх удзельнічаюць усе дзеці.

Таксама некалькі ранішнікаў будуць дабрачыннымі: для сірот, дзяцей-інвалідаў і дзяцей з цяжкіх сямей.

Аддзел інфармацыі.

СВЯТА

## Балі і канцэрты да Новага года ў Смаргоні

**СМАРГОНЬ. Смаргонская дзіцячая школа мастацтваў імя Агінскага запрашае на канцэрты “Калядныя сустрэчы”.**

**20 снежня** ў 18.00 – струннае аддзяленне, а 23 снежня ў 17.00 – агульны канцэрт.

У раённым Доме культуры **21 снежня** ў 16.00 сваё майстэрства прадэманструюць навучэнцы харэаграфічнага аддзялення з праграмай “На балі ў снежнай каралевы”.

**23 снежня** ў 18.00 у актавай зале школы мастацтваў пройдзе навагодняя казка для дзяцей “Новы год з Фрэкен бок”.

**14 студзеня** для жыхароў горада пройдзе калядны канцэрт “Святло каляднай зоркі”.

Даведачную інфармацыю можна атрымаць па тэлефонах: **2-19-71, 2-17- 40**.

Аддзел інфармацыі.

## Збяруцца ўсе Дзяды Марозы і Снягурачкі раёна

**АСТРАВЕЦ. Да іх далучацца і казачныя героі таких роставых лялек некалькі: Дракон, Мядзведзь, Леў, Певень.**

Парад пройдзе апоўдні 21 снежня, у суботу, на цэнтральнай плошчы. Дзеці будуць вадзіць хараводы, ім прапануюць розныя забавы.

На парад Дзядоў Марозаў і Снягурачак з'едуцца героі свята з усіх клубаў і прадпрыемстваў раёна. Дырэктар раённага Дома культуры Ірына Расамацкая паабяцала падлічыць, колькі іх будзе, і паведаміць нашым чытачам.

Парад казачных герояў пройдзе ў Астраўцы другі год запар. Для моладзі пройдуць калядная і навагодняя дыскатэкі ў кінаканцэртнай зале Астравец, якія прадоўжацца да чатырох гадзін раніцы.

Зоя ХРУЦКАЯ.

КНІГІ

## Паэт з Мядзела Аляксандр Быкаў прэзентаваў новую кнігу

**МЯДЗЕЛ. У пятніцу, 13 снежня, адбылася прэзентацыя новай кнігі мядзельчаніна Аляксандра Быкава – зборніка вершаў “За межы круга”. Праходзіла яна ў зале цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Танка.**

Аляксандр Быкаў – журналіст, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі. Гэта яго ўжо трэцяя кніга.

На сустрэчы прысутнічалі прыхільнікі творчасці паэта, культработнікі, вучні гімназіі-інтэрната. Вядучыя пазнаёмілі з творчым шляхам **Аляксандра Быкава**, гучалі яго вершы і дзве песні на радкі аўтара.

Вядома, чытаў свае творы і сам паэт. Адказаў ён на пытанні ўдзельнікаў сустрэчы.

Сярод выступоўцаў былі краязнаўцы **Іван Драўніцкі, Уладзімір Серадзінскі,** кіраўнік літаратурнага аб'яднання “Медуніца” **Валянціна Яфімава**, госця са Смаргоні – калега па журналісцкім і паэтычным цэху **Ала Страшынская (Клемянок)**. Яна прачытала свае паэтычныя пажаданні Аляксандру Быкаву.

Алесь ВЫСОЦКІ.

СВЯТОЧНЫ СТОЛ

# Каб на вашым стале заўсёды быў духмяны хлеб… і да хлеба

**На святочным стале павінны быць розныя стравы. Абавязкова каб быў свежы, духмяны хлеб і пабольш фруктаў, агародніны, зяленіва, якім упрыгожце практычна любую страву.**

Ну, і, вядома, не абысціся без салатаў, халодных закусак, гарачых страў з бульбы і мяса, салодкіх пірагоў з яблыкамі, тварагом...

У наборы страў аддавайце перавагу здароваму харчаванню, і, думаю, усе, незалежна ад узросту, павінны кіравацца гэтым. Прапаную вам на выбар рэцэпты страў, якія прыгожыя на выгляд, смачныя і карысныя.


Фота static-hetzner.mediasturrussia.ru.

Не забудзьцеся ўзяць за святочны стол усмешку.

### Салата "Радасць"

*3 балгарскія перцы (чырвоны, жоўты, зялёны), 2 невялікія кабачкі, 2 невялікія баклажаны, 4 памідоры – слівкі, 2 зубкі часнаку, 60 мл аліўкавага алею.*

Перац і памідоры нарэжце на чацвярцінкі, кабачкі і баклажаны – па дыяганалі таўшчынёй ў 1 см.

Зрабіце заліўку: алей змяшайце з 2 зубкамі часнаку, які папярэдне прапусціце праз прэс, і паліце агародніну, добра перамяшайце. Няхай марынуецца.

Цяпер зрабіце запраўку для салаты, для чаго вам спатрэбіцца: *60 мл аліўкавага алею, 1 зубок часнаку, некалькі галінак свежай пятрушкі, 1 ст. лыжка цёмнага бальзамічнага воцату, шчопця цукру, чорны перац і соль – на смак.*

Пятрушку дробна парэжце і змяшайце з дробна пасечаным часнаком, цукрам і бальзамічным воцатам, узбіце, дадайце алей і зноў добра ўзбіце. Урэшце дадайце чорны перац і соль.

На сухой патэльні абсмажце агародніну. Спярша кружкі кабачкоў і баклажанаў, затым перац і памідоры. Абсмажвайце з абодвух бакоў па пару хвілін.. Складзіце салату ў салатніцу, паліце запраўкай.

### Кугель

Такая страва з яўрэйскай кухні падыходзіць як да святочнага стала, так і для посная, а таксама тым, хто аддаў перавагу вегетарыянству. Яе можна выкарыстоўваць як асобную страву, а можна і ў якасці гарніру – каму як падабаецца.

Гэты рэцэпт нам прапанавала наша чытачка сайта Вольга, якая цяпер жыве далёка за межамі нашай краіны.

1 цыбуліна, 1 морква, палова качана капусты, пачка мяккага тварагу, лепш абястлушчанага, 1 яйцо, кроп ці пятрушка, шклянка проса, 60-80 мг алею, соль і спецыі – на смак.

Абсмажце цыбуліну на алеі, дадайце моркву, надзёртую на буйной тарцы, праз хвілінкі 2-3 – нашаткаваную тоненька капусту. Смажце яшчэ 10 хвілін.

Тварог узбіце ў блэндары з яйкам і дробненька нарэзаным кропам ці пятрушкай. Калі ён сухаваты, то дадайце трохі смятаны. Асобна зварыце проса.

Усе інгрэдыенты злучыце, добра перамяшайце, выкладзіце ў пасудзіну і запячыце ў духоўцы 35-40 хвілін пры тэмпературы 180 градусаў.

### Смажаніна з індычкі

*600 г грудкі індычкі (курыцы), 50 г бекона, 1 цыбуліна, 1 морквіна, 500 г шампіньёнаў, 1 зялёны яблык, 1 ст. лыжка мукі, 500 г бульбы, 5 ст. лыжак белага сухога віна, масла, алей.*

Цыбулю і моркву абярыце і здрабніце. Грыбы вымыйце і нарэжце скрылікамі, сала – маленькімі кавалачкамі.

Разагрэйце на патэльні 2 ст. лыжкі алею, абсмажце цыбулю і моркву, 6-7 хвілін. Дадайце бекон і грыбы, яшчэ смажце, памешваючы 8 хвілін. Пасыпце агародніну і грыбы мукой, пасаліце і паперчыце. Уліце віно. Пастаянна памешваючы, давядзіце да кіпення і зніміце з агню.

Разрэжце філе індычкі ці курыцы на 4 кавалкі, натрыце соллю і перцам. У патэльні разагрэйце алей, абсмажце мяса (па 7 хвілін з кожнага боку). Перакладзіце на талерку.

Яблык вымыйце і нарэжце кружкамі. Пакладзіце на патэльню, дзе смажылася мяса, і абсмажце па 1,5 хвіліны з кожнага боку.

Бульбу абярыце, адварыце да гатоўнасці, зліце ваду, дадайце 1 ст. лыжку масла, яйцо, соль і стаўчыце на пюрэ.

Разагрэйце духоўку да 220 градусаў. Змажце бляху маслам. Выкладзіце кружочкі яблыка, растапіце трохі масла і папырскайце ім, пакладзіце на яблыкі абсмажанае філе індычкі (курыцы). Напоўніце бульбяным пюрэ кулінарны мяшок і прыгожа укладзіце яго вакол мяса. У сярэдзіну пакладзіце тушаную агародніну і грыбы.

Пастаўце бляху ў духоўку і запякайце 10-15 хвілін, пакуль пюрэ не набудзе чырванаватае адценне. Выкладзіце гатовую страву на папярэдне падагрэтыя талеркі. Упрыгожце зелянінай.

### Кураняты з мандарынамі

*4 кураняці, 8-10 мандарынаў, 350 мл белага віна, 2 галоўкі часнаку, цэдра 1 апельсіна, 5 ст. лыжак аліўкавага алею, 3 ст. лыжкі масла, чабор (тимьян), соль, перац.*

Куранят разрэжце на дзве палавінкі, пасаліце, паперчыце, абсмажце на аліўкавым алеі і масле разам з нячышчанымі долькамі часнаку. Пасыпце чабаром. Перакладзіце ў форму.

У масле абсмажце чацвярцінкі мандарынаў. Іх таксама пакладзіце ў форму. Накрыйце фальгой і пастаўце ў духоўку на 20 хвілін пры 160 градусах.

Віно разагрэйце ў каструльцы, дадайце туды цэдру і выпарвайце напалову. Уліце ў куранят і пастаўце ў духоўку яшчэ на 20 хвілін без фальгі.

Соус, што ўтвараўся, падавайце асобна.

### Язык у мядова-гарчычным соусе з курагой

*1 язык (папярэдне зварана з морквай, цыбуляй і спецыямі), 1-1,5 шклянкі белага сухога віна, 0,5 шклянкі вады, жменька курагі, 2 ст. лыжкі мёду, 2 ст. лыжкі французскай гарчыцы, 2 ст. лыжкі соевага соусу, аліўкавы алей, 2 зубкі часнаку.*

Нарэжце звараны язык. У патэльні разагрэйце алей, абсмажце ў ім часнок, расцісніты плоскім бокам нажа. Уліце ваду, віно, дадайце курагу, гарчыцу, мёд і соевы соус. Трохі выпарыце без накрыўкі, каля 10 хвілін.

Дадайце язык, накрыйце накрыўкай і няхай патушыцца хвілін 20. Падаваць можна з адвараным белым рысам, з бульбяным пюрэ ці проста так.

**Проста МАРЫЯ.**

## Навагодні стол – усяго чатыры стравы

**Навагодні стол – гэта не нагода наядацца за ўвесь год, гаворыць Марына Пяцюк, повар, выкладчыца прафесійна-тэхнічнага каледжа.**

Каб свята было прыемным і лёгкім, дастаткова прыгатаваць чатыры стравы: закуску, салат, асноўную страву і дэсерт.

Я мяркую, што гэта вельмі добра, што ўрэшце нашы гаспадыні замест тазікаў розных салатаў з каларыйным і шкодным маянэзам звярнулі сваю ўвагу на еўрапейскія канапкі. У прыгатаванні гэтай стравы фантазіі гаспадыні няма абмежаванняў. Я прапаную зрабіць наступныя: сыр – лімон – мармелад; сыр – масліна – вінаград; брынза – масліна – фінік; вяндліна – салата розных гатункаў – каперсы. Выбірайце на свой густ.

Салату я параіла б прыгатаваць лёгкую, у якасці запраўкі выкарыстоўваць аліўкавы алей або лімонны сок. У такія салаты пойдуць вараная курыца, пекінская капуста, авакада, памідоры, яйкі.

У якасці асноўнай стравы я заўсёды раблю бульбу з мясам. Бульба рэжацца саломкай, прыпраўляецца алеем, соллю, часнаком, базілікам, дадаюцца кавалачкі мяса і тушыцца да гатоўнасці.

А дэсерт павінен быць лёгкі. Магу прапанаваць садавіну з марожаным. Усю садавіну, якую толькі знойдзеце дома: яблыкі, бананы, апельсіны, грушы рэжам на кавалачкі, заліваем сокам або чырвоным віном і тушым каля пяці хвілін. Затым кладзём гэту сумесь у крэманкі і ўпрыгожваем шарыкам марожанага.

І не забываемся пра мандарыны. Хочацца чагосьці з'есці, каб не было назаўтра крыўдна за сапсаваную фігуру? Ешце мандарыны!


Фота з асабістага архіва Марыны ПЯЦЮК.

Повар Марына Пяцюк ведае, як зрабіць застолле лёгкім.

## Дзевяць карысных парад, як не аб'ядацца за навагоднім сталом

Парады дае доктар-дыетолаг **Ванда Анціпеўская:**

1. Ні ў якім разе **не трэба цэлы дзень галадаць** у чаканні святочнай вячэры. Памятайце, што на галодны страўнік можна з'есці ўсяго ў шмат разоў болей. Лепей днём перакусваць салатай без маянэзу ці булёнамі.
2. Падчас застолля **пазбягайце стравы з вострымі прыправамі**, яны стымулююць апетыт
3. **Не налягайце на алкаголь.**
4. Перад застоллем **выпіце гарбаты з кветкамі рамонку.** Такі адвар супакоіць слізістую страўніка і вельмі становіча скажацца на выпрацоўцы страўнікавага соку.
5. **Не запівайце страву газіраванымі напоямі.** Бурбалкі гэтых напояў выклікаюць уздуцце жывата. Нашто вам адчуванне цяжкасці?
6. Калі не можаце адмовіцца ад некаторых страваў (хочацца пакаштаваць усё), то можна **частавацца маленькімі порцыямі.**
7. **Ешце павольна, не спяшаючыся.** Сігнал пра тое, што вы наеліся, ваш мозг атрымае праз хвілін 20-30 пасля пачатку вячэры.
8. Не сядзіце ўвесь вечар за сталом. **Рухайцеся, выходзьце дыхаць паветрам, танцуйце.**
9. Захапіце з сабой лекі, якія дапамогуць вашаму страўніку працаваць як гадзіннік. Нават калі вам яны не спатрэбяцца, вашы сябры скажуць вам дзякуй.

**Наталля ТУР.**

НАШЫ ДЗЕЦІ

# А як Дзед Мароз да ўсіх паспявае?

**МАЛАДЗЕЧНА. Пра тое, чаму зіма – найлепшы час года, як атрымаць падарунак ад Дзеда Мароза і што хочуць сучасныя дзеці, нам распавялі ў старэйшай групе дзіцячага садка №10 пяці- і шасцігадовыя выхаванцы.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**Пра зіму і Дзеда Мароза нам распавядалі выхаванцы маладзечанскага садка №10 Лера Дубовік, Таня Шылько, Мацвей Шчацько, Сабрына Мароз і Каця Сняжко (злева направа).**

**Каця**: Больш за ўсё люблю зіму, таму што снег і падарункі. Можна катацца на санках і нават на каньках. Многа ў што гуляць, можна ляпіць снегавіка. Я ведаю, як у снежкі гуляць: трэба падкрасціся, кінуць – і хутчэй ўцячы!

**Мацвей**: Паўсюль ёлачкі, таму што хутка будзе Новы год і ранішнік.

**Сабрына**: Новы год – гэта калі трэба многа спяваць, і прыгожа.

**Каця**: Дзед Мароз – гэта снежны чалавек, які прынясе ўсім падарункі пад ёлачку. Толькі спачатку трэба напісаць ліст. У яго ёсць усе-усе падарункі. Ён іх ноччу шые. Але дорыць толькі тым, хто добра сябе паводзіць, а хто дрэнна – не дорыць. Каб паводзіць сябе добра, трэба наводзіць парадак, пыласосіць і слухаць маму. Ён прыходзіць праз комін ці адчыненае акенца.

**Лера**: А я зіму не люблю, таму што холадна. Іншая справа лета!

**Каця**: Я хачу чорнае кацяня, якое яшчэ і гаворыць, як у Сабрыны.

**Мацвей**: Я хачу сабачку, які катаецца на скейтбордзе і робіць трукі. У нас ёсць тэлевізар, і там мульцікі, дзе паказваюць розныя цацкі, вось гэтага сабачку там убачыў.

**Лера**: А я мульцік "Маша і Мядзведзь" глядзела толькі тады, калі была маленькая.

**Таня**: Хачу вялікую каробачку з такімі штучкамі, з якіх складваецца звычайная мазаіка, з карцінкай пра Барбі.

**Каця**: А вось на наступны год, калі я дарослая буду, я хачу канькі!

**Мацвей**: Я люблю маляваць карцінкі, а больш за ўсё я люблю яшчэ гуляць! Хачу стаць мастаком, маляваць замкі.

**Каця**: А я настаўніцай. Гэта калі буду зусім дарослая. А потым хачу быць швачкай, бо мая мама ўсё шые. І мяне вучыць.

**Сабрына**: А я выхавальніцай.

**Мацвей**: Я люблю тату дапамагаць рабіць машыну. Хачу навучыцца завязваць шалік і шапку.

**Каця**: А я ўжо умею рабіць таленты: скакаць, перакочвацца.

**Таня**: А я люблю з татам рабіць рамонт у зале.

**Каця**: У мяне лепшыя сябры ўсе, я ўсіх люблю. У нас ва ўсіх усе, таму што гэта садок Сяброўства, а другі садок – Сонейка.

**Таня**: Толькі хлопчыкі б'юцца за лега. А калі я сплю, мой коцік ловіць мае ножкі.

**Каця**: Ведаеце што, я вам самае цікавае раскажу. У мяне выпаў зуб, я паклала пад падушку. Прачнулася – ён тут. Пайшла апранацца, прыйшла, а замест яго ляжалі грошы!

**Мацвей**: А ў маёй мамы ў жывоціку дзіцятка.

**Каця**: Я напісала Дзеду Марозу ліст, каб прынёс сапраўдны камп'ютар. Ён прынёс цацачны, затое гаворыць!

**Лера**: А я на Новы год хачу ружовыя ролікі, планшэт, там жа нават кнопак няма, і ляльку, якая ўмее гаварыць.

**Сабрына**: Калі мы з татам ехалі на Украіну, я бачыла чорную курачку. Трэба добра клапаціцца пра жывёл, таму што ў Дзеда Мароза ёсць жывёлы і ён іх любіць. У яго ёсць алені. Калі не любіш жывёл, то табе не падораць нічога.

**Каця**: Я хачу, каб Дзед Мароз падарыў мне курачку, якая народзіць куранятка, я буду яго даглядаць. Яны цацачныя, але гавораць.

На свята Каця будзе Прынцэсай, Сабрына – Матыльком, Мацвей – Чалавекам-павуком, Таня – Каралевай, а Лера – Сняжынкай.

**Зоя ХРУЦКАЯ, Наталля ТУР.**

КАЗКА

## Пра зайчыка

Было цудоўна.

Сонейка свяціла на поле, дзе расла бульбачка, на другое поле, дзе расло збожжачка, а яшчэ на поле, на якім расла канюшынка. Свяціла таксама на мяжу, на якой расла травічка, на кусцік, што рос ля той мяжы.

Сонейка свяціла, і было цудоўна.

Іванка стаяў на двары і глядзеў. Глядзеў на поле, дзе расла бульбачка, і на іншае поле, дзе расла збажына, і яшчэ на іншае, дзе расла канюшынка.

Глядзеў таксама на мяжу, на якой расла травічка, і на кусцік, што рос на гэтай мяжы.

Але што гэта? Што гэта там яшчэ?

Было гэта шэрае, як глей, але не быў гэта глей, было гэта вострае, як камень, але не быў гэта камень.

Было гэта жывое і рухалася.

Што гэта было?

Гэта быў зайчык.

Што хацеў зайчык на мяжы каля таго кусціка?

Шчыпаў траўку, пасвіўся.

І раптам зайчык знік. Ужо не шчыпле травічку, ужо не пасецца.

Дзе зайчык? Дзе ён?

Схаваўся за кусцік на мяжы.

Зноў ёсць там! Ужо зноў пасецца!

А зараз няма! Схаваўся!

Зайчык гуляў з Іванкам у хованкі.

Хаваўся і зноў вылазіў, зноў хаваўся і зноў пасвіўся.

А Іванка смяяўся і зноў клікаў: "Вылазь, зайчык, вылазь! Вылазь"

А Іванка клікаў і крычаў. Зайчык выскачыў і ўцякаў па полі, дзе расла бульба, па полі, дзе расла збажына, і зусім прапаў.

Ужо не прыйдзе?

Не прыйдзе.

Спалохаўся Іванкі.

**Францішак ТЭНЧЫК, пераклад з чэшскай мовы Яўгеніі ЧАПЛІНСКАЙ.**



Малюнак raschiteiki.ru.

**Калі будзеце чытаць казку, пагуляйце з дзіцем у гульню. Калі па казцы зайка хаваецца – закрывайце карцінку далонню. Хай дзіця пазмагаецца з вамі ў хуткасці і паспрабуе злавіць зайку хутчэй, чым вы схаваеце. Размалюйце карцінку.**

КАРАТЭ

# Дваццаць пяць год навучаюць каратэ


Фота забяспечана Сяргеем Кірыевічам.

Момант юбілейнага турніру.

**ВІЛЕЙКА. Клубу "Самурай" з Вілейкі споўнілася 25 год. Яго трэнер Сяргей Кірыевіч расказвае ў інтэрв'ю пра гісторыю клуба і дасягненні яго спартсменаў, прыгадвае, як яго зацікавіў каратэ кубінец, тлумачыць, якую карысць заняткі прынонсяць дзецям.**

**– Адразу крыху пра гісторыю клуба...**

– Клуб "Самурай" быў створаны ў 1988 годзе. Напачатку ён называўся "Дзяржынец". Арганізаваў клуб **Аляксандр Паліўка**. На той час гэты від спорту быў у навіну. Дзяцей было столькі, што ў вялікай зале не хапала месца нават падчас размінкі. Хадзілі на заняткі нават сем'ямі. На першых жа спаборніцтвах вілейскія спартсмены заваявалі медалі. І чым далей, тым больш.

**– Якія найбольшыя дасягненні ў вілейскіх каратыстаў былі?**

– У 90-я гады ўдзельнічалі ў міжнародных турнірах, чэмпіянатах Еўропы: былі і ў прызёрах, а **Руслан Балаховіч** стаў чэмпіёнам Еўропы. Хацелася б адзначыць тых людзей, якія заваявалі славу клубу: **Максім Гарамыкін, Віктар Гуранкоў, Ігар Трусаў, Аляксандр Каратыш, Дзмітры Тарговіч, Кірыл Шуванаў, Ягор Кузмічоў, Наталля Вяжэвіч, Алена Шарафановіч, Віталь Дзяруга** і шмат іншых.

**– А як мянялася цікавасць дзяцей да нятккаў за гэтыя гады?**

– Цяпер пераважна меншыя школьнікі трэніруюцца, а ўжо год з чатырнаццаці іншыя інтарэсы з'яўляюцца – камп'ютары. На жаль, зараз спорт у людзей на другім плане.

**– Колькі цяпер людзей займаецца ў клубе?**

– Каля сотні. І, як казаў, пераважна меншыя школьнікі. Гэта не толькі ў нас, і ў іншых гарадах такая тэндэнцыя. Прыязджаем на спаборніцтвы, у групах, дзе юныя каратысты, шмат удзельнікаў. А дзе ўзростам больш за 16 год – зусім мала. Па-ранейшаму выязджаем на розныя турніры. Дзе б ні былі, без медалёў не вяртаемся. А займаемся цяпер у зале цэнтра фізкультурна-аздараўленчай работы "Сатурн".

**– Вы ж самі выхаванец клуба. А ў вас як з'явілася цікавасць да каратэ?**

– Гэта яшчэ да клуба было. Неяк прыехаў у Вілейку кубінец, на пляцоўцы ля першай школы паказваў удары з каратэ: вядома, большым хлопцам, але і нам, малым, было цікава. Асабліва, як ён удары нагой наносіў. Потым пачалі з'яўляцца кніжкі падпольныя (адразу ж у СССР каратэ было пад забаронай), па іх крыху вучыліся.

І калі клуб у Вілейцы адкрыўся, то адразу сюды прыйшоў. Адзін год пазаймаўся, потым у армію пайшоў. Адслужыў – і зноў у клубе стаў займацца. А ў 1991 годзе стаў трэнерам.

**– Што дзецям даюць заняткі каратэ?**

– Найперш, гэта ўменне пастаяць за сябе. Раскажу такі выпадак. Дзяўчына, што займалася ў клубе, ехала позна на электрычцы. Адчувае, што ў яе выцягваюць сумку. На дапамогу не паклічаш: у вагоне была адна. І тут яна прафесійна выканала адзін удар – і злодзей збег. Але заўсёды вучу, каб ніколі свае магчымасці не прымянялі для нападзення, толькі для самаабароны. Нагогул, сапраўдны каратыст пастараецца пазбегнуць бойкі.

Яшчэ заняткі карысныя для загартоўвання дзяцей: мы ж займаемся басанож. Адпаведна, яны менш хварэюць.

І увогуле: заняткі каратэ дазваляюць дзецям адчуваць сябе больш упэўнена.

Гэтыя заняткі не толькі для самаабароны, а для самасцвярджэння добрыя. Лічу, што яны дапамагаюць потым у жыцці. Нашы выхаванцы і кіруючыя пасады займаюць: напрыклад, начальнік Вілейскага райаддзела ўнутраных спраў **Аляксандр Каратыш**, начальнік ДРБУ-162 **Аляксандр Майстровіч**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Прыняць удзел у турніры па жыме лежачы можа кожны

**ВАЛОЖЫН. Першы турнір па жыме лежачы адбудзецца ў Івянцы 21 снежня.**

Ініцыятарам такіх спаборніцтваў выступіла **Людміла Генава**, інструктар-метадыст трэнажорнай залы фізкультурна-аздараўленчага цэнтра "Надзея":

– Да нас у залу ходзяць хлопцы, якія даўно займаюцца атлетыкай. І такіх спаборніцтваў вельмі не хапала. Я прапанавала, маю ідэю падтрымалі.

У суботу ў зале збярэцца каля 20 удзельнікаў толькі з аднаго Івянца. А аб'явы мы размясцілі па ўсім раёне, таму, калі ўсё атрымаецца, спаборніцтвы могуць стаць раённымі. Гэта першая спроба правесці такі турнір. На гэты раз мы выбралі толькі адну дысцыпліну: жым лежачы. Калі першая спроба будзе ўдалай, то наступным нашым крокам будзе арганізацыя спаборніцтваў па паўэрліфтынгу. (Паўэрліфтынг таксама называюць сілавым трохбор'ем. У якасці спаборніцкіх дысцыплін у яго ўваходзяць тры практыкаванні: прысяданні са штангай на спіне, жым штангі лежачы на гарызантальнай лаўцы і цяга штангі).

Атлеты будуць спаборнічаць у трох вагавых катэгорыях: да 65 кілаграмаў, ад 65 да 80 кілаграмаў і звыш 80 кілаграмаў. Пераможцам будуць уручаныя прызы і дыпломы.

Турнір па жыме лежачы адбудзецца ў Івянецкім Доме быту. Пачатак а 14 гадзіне.

**Наталля ТУР.**

НАВІНЫ

## Клуб "Смаргонь" – пяты па наведвальнасці

**СМАРГОНЬ.** Футбольны клуб "Смаргонь" стаў пятым па сярэдняй наведвальнасці матчаў у першай лізе чэмпіянату Беларусі.

У сярэднім яго матчы глядзяць 823 чалавекі, паведамляе goals.by.

Сярэдняя наведвальнасць усіх матчаў чэмпіянату Беларусі ў першай лізе склала 608 гледачоў, а самай наведвальнай камандай стаў чэмпіён – "Слуцк" (1330 чалавек).

## Першым фіналістам стаў "Юніёр"

**ВІЛЕЙКА.** У нядзелю, 15 снежня, адбыліся чвэрцьфіналы штогадовага турніру па міні-футболе. Вынікі такія: "Першы Беларускі" – "Крыніца" 19:5, "Шылавічы" – "Воўкаўшчына" 11:4, "Буддэталі" – райаддзел па надзвычайных сітуацыях 12:4, "Юніёр" –"Макаўе" 11:6.

– Самая напружаная барацьба была ў матчы паміж камандамі "Воўкаўшчына" і "Шылавічы". У першым тайме змагаліся на роўных, і толькі потым гульцы "Воўкаўшчыны" здаліся пад ціскам сапернікаў, – паведаміў інструктар-метадыст раённага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра "Імпульс" **Аляксандр Вайда**. – Астатнія каманды былі прыкметна мацнейшымі за сваіх апанентаў.

Дзесяць галоў у матчы з "Крыніцай" забіў **Аляксандр Альховік**. Ён выйшаў на першае месца ў спрэчцы бамбардзіраў: на рахунку гульца "Першага Беларускага" 39 галоў.

У нядзелю паспелі правесці і адзін з паўфіналаў. "Юніёр" абыграў "Шылавічы" з лікам 11:2 і выйшаў у фінал.

Яшчэ адзін паўфінал, у якім сустрэнуцца каманды "Першы Беларускі" – "Буддэталі", адбудзецца 20 снежня. А 22 снежня стане вядомы пераможца турніру.

## Лідары бяруць свае ачкі

**МЯДЗЕЛ.** У аўторак, 10 снежня, пачаліся гульні другога тура чэмпіянату раёна па міні-футболе. Каманда цэнтра "Зубрања" разграміла гульцоў з райваенкамата 13:1, прадстаўнікі Крывіцкага Савета без бою саступілі СДЮШАР 1:11, аддзел адукацыі, спорту і турызму перайграў "Юніёр" з лікам 7:5.

У суботу адбыліся толькі два матчы: супрацоўнікі РАУС перамаглі каманду індывідуальных прадпрымальнікаў 8:2, каманда райаддзела на надзвычайных сітуацыях абыграла прадстаўнікоў прадпрыемства меліярацыйных сістэм 5:4.

Яшчэ два матчы былі перанесеныя.

– Каманды, якія рэальна мацнейшыя, свае ачкі ўзялі, – пракаментаваў гульні другога тура дырэктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Міхаіл Чаркасаў**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Кубак праваабаронцаў у электрычных сетках

**МАЛАДЗЕЧНА.** 14 снежня ў Маладзечне адбыўся трэці валейбольны турнір, які праводзіць Маладзечанскае прадстаўніцтва РПГА "Беларускі Хельсінскі камітэт" і прадстаўніцтва ААН у Беларусі.

Чатыры каманды спрачаліся на валейбольнай пляцоўцы за пераходны кубак праваабаронцаў. Першае месца заняла аб'ядналая каманда Маладзечанскіх электрычных сетак і Маладзечанскага энерганагляду, ім быў уручаны кубак і дыплом першай ступені, другое месца заняла каманда маладзечанскага прадстаўніцтва РПГА "Беларускі Хельсінскі камітэт", трэцяе месца каманда Маладзечанскага аддзела МНС, чацвертае месца – аб'яднаная каманда чыгункі і ААБ філіял №601 "Беларусбанка".

Таксама былі адзначаныя лепшыя гульцы турніру. Імі сталі **Дзмітры Брылеўскі** (аб'яднаная каманда МЭС-Энерганагляд), **Эдвард Баланчук** (Беларускі Хельсінскі камітэт), **Алег Гаштольд** (МНС), **Сяргей Паслед** (філіял №601 ААБ "Беларусбанк").

**Эдвард БАЛАНЧУК.**


Фота забяспечана Эдвардам БАЛАНЧУКОМ.

Падчас валейбольнага турніру.



# Камент-эксперт



Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420

**За пяць выкарыстаных батарэек – адну новую. Чаму не?**

Выбачайце за наіўнасць, але мне падаецца, што шукаць выгаду нават у такіх дробных рэчах не варта. Давайце тады выдаваць новыя пакеты на смецце, калі нехта выносіць смецце не пад акно, а на сметнік! Клапатлівае стаўленне да навакольнага асяроддзя (у якім жывём мы самі, а не нехта там) павінна быць натуральным. Паснедаў, пачысціў зубы, схадзіў у краму па малако, выкінуў батарэйкі, як трэба. Калі людзей вечна матываваць матэрыяльным, то адвучацца рабіць нешта проста так. ***Наіўная.***

■ ТУРЫЗМ

## Турыстычны комплекс будуюць згодна з фэн-шуем

**ВИЛЕЙКА. Турыстычны комплекс павінен з'явіцца на беразе Вілейскага вадасховішча ў лістападзе 2014 года.**

Яго будуюць беларусы. Усяго будзе шэсць аднапавярховых домікаў з мансардай і ў кожным з іх па 6 ці 7 нумароў. Атрымліваецца, комплекс зможа змясціць 43 ахвотных там адпачыць.

Кампаньён кіраўніка праекта, беларускага будаўніка **Дзмітрыя Цяліціна**, – кітайская фірма ў Ганконгу. Яна дае пазыку. Дзмітры падабраў некалькі розных месцаў не далей, чым у 100 км ад Мінска, дзе можна было б пабудаваць такі комплекс. Потым прыехаў чалавек з Ганконга і канчаткова зрабіў выбар.

**– У іх там свае ўсходнія панецці, – кажа Дзмітры. – Прадстаўнік фірмы вырашыў, што па фэн-шуі Вілейшчына найбольш падыходзіць.**

У комплексе таксама будзе кавярня і дзве лазні.

**– Мы плануем тры разы на дзень карміць адпачывальнікаў, – адзначае Дзмітры. – А лазні дзве будую ўжо па сваім досведзе. Прыязджае кампанія, якая вельмі любіць лазню, і іншыя яе ўжо два дні не бачаць. Таму лепш адразу мець дзве.**

Турыстычны комплекс будуецца ў 35 кіламетрах ад Вілейкі і ў 90 ад мінскай кальцавой.

У планах Дзмітрыя пашырыць яго, каб можна было змясціць адразу 200 чалавек.

– На Вілейшчыне гэта першы турыстычны комплекс, – заўважае начальніца аддзела архітэктуры і будаўніцтва Вілейскага райвыканкама **Галіна Кажарновіч**. – Не дзіўна, што абралі нашы мясціны. Тут вадасховішча, шмат рыбакоў, якія прыязджаюць з розных гарадоў Беларусі. Мясціны вельмі папулярныя.

**Настасся РОЎДА.**

■ СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | | | 1 | | 9 | | | |
| | | 6 | | 2 | 3 | | | |
| 7 | | | | | | 2 | | 4 |
| | | 8 | | | | | | 5 |
| | 2 | | | 8 | | | 4 | |
| 4 | | | | | | 6 | | |
| 9 | | 1 | | | | | | 7 |
| | | | 4 | 1 | | 8 | | |
| | | | 3 | | 7 | | | 1 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



■ ГУЛЯЙ З "РГ"

## Выйграйце каляндар "Будзьмы"

**РЭГІЁН. Календары на 2013 год карысталіся вялікім попытам, і ўсе партыі разышліся за лічаныя дні.**

"РГ" набыла апошні беларускі каляндар кампаніі "Будзьма" і падорыць яго разам з білетам ў тэатр і музычным дыскам свайму пераможцу.

Пытанні, на якія трэба адказаць, каб выйграць.

1. Ці варажылі вы? Раскажыце сваю гісторыю.

2. Ці назіралі вы чараўніцтва ў звычайным жыцці?

3. Чаму газета і тэатр не губляюць актуальнасці ў наш час?

Дасылайце адказы на электронны адрас: regionnews@rh.by.

Аказалася, апошнія тры гульні запар перамагае маладзечанец **Вячаслаў Курбака**. Сярод іншых падарункаў за апошнюю гульню ён атрымаў у падарунак кнігу Міхася Казлоўскага "Да кніжных скарбаў дакрануўся". Вось яго адказы (цалкам чытайце на сайце rh.by).

1. *Што трэба, каб спартыўнае жыццё Маладзечна кіпела.*

- Зрабіць больш утульным у плане сэрвісу наведванне спартыўных мерапрыемстваў: рабіць стацыянарныя і перасоўныя буфеты, крамы з атрыбутыкай, праграмкі да мерапрыемстваў. Абавязкова імкнуцца да прафесійнага фармату ўдзелу нашых клубаў у тых ці іншых мерапрыемствах.

- Прыпыніць татальнае абшукванне балельшчыкаў на спартыўных мерапрыемствах – усё ж на стадыёны ходзяць не толькі хуліганы, але і людзі, якія прыйшлі пахварэць за любімы клуб, і іх гэта проста прыніжае.

- Рабіць належную рэкламу спартыўным відовішчам (хакейныя афішы Лядовага палаца амаль незаўважныя, нягледзячы на іх значны памер – бярыце прыклад з футбольных афішаў). Чаму б не рабіць абвесткі на мясцовым тэлебачанні, якія б заклікалі на стадыёны?

- Трэба каб кожны маладзечанскі клуб быў патрыятычным натхняльнікам, які праслаўляе свой горад, Радзіму, нацыянальныя каштоўнасці і працягвае слаўную гісторыю. Лічу, што ў нашых спартыўных клубах не маюць права знаходзіцца людзі, якія не прымаюць гэтых каштоўнасцей. Наш ФК таму прыклад, якая пазіцыя кіраўніцтва – такі вынік каманды.

- Развіваць спартыўныя школы, укладаць у іх немалыя сродкі, даць дзіцячаму трэнеру такі заробак, каб ён хадзіў на працу і запальваў сваім агнём вочы ў дзяцей.

2. *Чым для вас адметная Смаргонь?* Гэта горад няскораных людзей. Падчас Першай сусветнай вайны яго пакінулі амаль усе жыхары і здавалася, што яго чакае лёс горадоўпрывідаў, але мужныя смаргонцы вярнуліся ў свае хаты і аднавілі-адрадзілі жыццё сваёй малой бацькаўшчыны.

Адметны і свaім ФК, які, нягледзячы на цяжкія часы, не кануў у небыццё, а працягвае дастойна адстойваць колеры горада. Па гэтым добра бачна, што ў кіраўніцтве Смаргоні заўсёды знаходзіцца чыноўнікі, якія любяць, разумеюць і берагуць футбол у горадзе.

3. *Што неабходна драмтэатру?* Неабходна тэатру новая атмасфера – новыя дэкарацыі, касцюмы, светлавое афармленне сцэны. У нас сабраўся ўнікальны акцёрскі склад, і яму павінны стварыць належныя ўмовы, каб акцёры маглі рэалізаваць свой талент і паказаць яго гледачу напоўніцу.

Лічу цікавым зрабіць пры тэатры невялікі аматарскі тэатр, дзе ў акцёрскім майстэрстве сябе паспрабаваць змогла кожны жыхар. Незалішняя б была і невялічкая тэлестудыя пры тэатры, якая б рабіла тэлеспектаклі.

**Аддзел інфармацыі.**

■ РЭПЕРТУАР

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна



*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фэнтэзі, прыгоды "**Хобіт: Пустка Смаўга**", 3D (ЗША, 2013, 2 серыі, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
20, 21 снежня – 18.00, 21.00
22 снежня – 15.30, 21.00
23, 24 снежня – 21.00
25, 26 снежня – 18.00, 21.00
Кошт білета – 45 000-50 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды "**Халоднае сэрца**", 3D (ЗША, 2013, дзецям да 12 год прагляд дазволены суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
20 снежня – 15.30
21 снежня – 13.00, 15.30
22 снежня – 13.00, 18.30
23, 24 снежня – 18.30
25 снежня – 13.00, 15.30
26 снежня – 15.30
Кошт білета – 35 000-40 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыйная камедыя "**Гладыятары Рыма**" (Італія, 2012, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
20 снежня – 17.30
21, 22 снежня – 15.00, 17.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды "**Неверагодныя прыгоды ката**"* (Францыя, 2013, дзецям да 12 год прагляд дазволены суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
25 снежня – 13.30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Прыгоды "**Шчаслівы зуб**" (Вялікабрытанія, 2004, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
25, 26 снежня – 15.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Анімацыя "**Альфа і Амега: Іколістая братва**" (ЗША, 2010, без узроставых абмежаванняў)
26 снежня – 13.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Трылер "**Выходны ход**" (ЗША, 2013, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
20-22 снежня – 19.30
23 снежня – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Баявік "**Нястрымны**" (ЗША, 2012)
24, 25 снежня – 21.30
26 снежня – 19.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Камедыя "**Ржэўскі супраць Напалеона**" (Расія, 2012)
20-22 снежня – 21.30
24, 25 снежня – 19.30
26 снежня – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Тэл. **: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**Рэпертуар на снежань**

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Нязваны госць**" (ну, ве-е-е-льмі сур'ёзная камедыя), Святлана Бартохава
26 чацвер 19.00,
27 пятніца 19.00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл: **76-17-32, 75-24-17**. E-mail: modt@tyt.by.

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

Кожны дзень да 30 снежня будуць праходзіць навагоднія ранішнікі "**Навагоднія хітрыкі Карлсана, альбо Спакой, толькі спакой**".

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.* Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

■ ГАРАСКОП (20-26 СНЕЖНЯ)



**Авен.** Калі ў вас дрэнны настрой, нешта не ладзіцца, то паспрабуйце "пераключыць каналы" – перастройцеся на іншую хвалю, і ўсё пачне атрымоўвацца.



**Цялец.** Спрыяльныя ўсялякія кардынальныя перамены і новыя пачынанні.



**Блізняты.** Магчымы прагрэс у справе, над якой вы шмат працавалі ў апошнія дні. Здольнасць сканцэнтравацца на прафесійных абавязках дасць перавагу над канкурэнтамі. Увечары рабіце тое, што будзе ствараць вам навагодні настрой.



**Рак.** Фартуна зменлівая і не пастаянная, але яна будзе шчодрай да вас. Перад навагоднімі святамі стварайце сабе настрой самі кожны дзень – займіцеся ўборкай, зрабіце якія-небудзь упрыгожванні для дома сваімі рукамі.



**Леў.** У пярэдадзень навагодніх святаў пастарайцеся ператварыць свой дом у казку. Гэта станоўча адаб'ецца на вашым настроі і самаадчуванні.



**Дзева.** Ваша самаадчуванне будзе такім, якія эмоцыі вы будзеце адчуваць. Кіраваць настроем складана, але можна, калі памятаць, што ад гэтага залежыць ваша здароўе. Шукайце прычыны для ўсмешкі – і яны абавязкова знойдуцца.



**Шалі.** Для ўзнаўлення сіл і папаўнення запасаў энергіі вам неабходны часовы "зыход у сябе". Але тлумачце гэта блізкім.



**Скарпіён.** Пастаўце інтарэсы сям'і на першае месца, наладзьце адносіны з блізкімі. Адпачніце разам, схадзіце куды-небудзь. Будзьце ўпэўнены, што гэта прынясе асалоду вам і парадуе блізкіх.



**Стралец.** Для вас цяпер фінансы не сплваюць рамансаў, грошы будуць паступаць своечасова і ў патрэбнай колькасці. Можаце займацца вырашэннем любых пытанняў: вам удасца дабіцца свайго.



**Казярог.** Больш рухайцеся, кантактуйце з сябрамі, знаёмцеся з новымі людзьмі. Новыя знаёмыя ў будучым могуць адыграць вялікую ролю ў вашым жыцці.



**Вадалей.** Вас чакае перыяд абнаўлення. Вы адчуеце ўзмацненне энергетыкі, настрой будзе аптымістычны.



**Рыбы.** Выхадныя прысвяціце актыўнаму адпачынку, менавіта ён дасць пазітыўныя эмоцыі, у якіх вы так маеце патрэбу.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**




**Камент-эксперт**




Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**



# Рэгіянальная газета



## НАДВОР'Е

**21 снежня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -1 | | 0 | | +1 | | +3 | |
| | 0 | | +2 | | +3 | | +4 | |
| | 738 | ↘ 5 | 747 | ↘ 3 | 747 | ↗ 1 | 733 | ↗ 4 |
| Вільня | -1 | | +2 | | +2 | | +4 | |
| | -1 | | +1 | | +2 | | +3 | |
| | 753 | ↑ 3 | 757 | → 5 | 752 | ↗ 7 | 750 | → 7 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |



Усход 9.31
Захад 16.50
Даўжыня дня 7.19



Усход 21.25
Захад 11.16
Квадра 3




## ПРЫКМЕТЫ

- "На Ганку сядайце на санкі". У дзень Ганны (22 снежня) вызначалі надвор'е, якое будзе роўна праз паўгода ("Па зіме і лета").
- 25 снежня – Божае нараджэнне, Каляды каталіцкія.

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Наталлі БРОЙК.

Што за бабры згрызлі пень?

## Чытайце праз тыдзень:

- **Да пачатку года сіняга драўлянага Каня застаецца не так шмат часу. Хочаце даведацца, каму Гаспадар года будзе спрыяць ва ўсіх справах ці каму прынясе доўгачаканыя змены ў жыцці? Чытайце ўсходні гараскоп на 2014 год у наступным нумары.**




Рэгіянальная газета

Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 51 (973) 20.12.2013.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 1162. Падпісана ў друк у 10.00 19.12.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.